ІНФАРМАЦЫЙНЫ
# БЮЛЕТЭНЬ НКЮ

№ 6. | СЬНЕЖАНЬ 1930 г. | № 6.



ЗЬМЕСТ





## Да перавыбараў саветаў.

Найважнейшая масавая палітычная кампанія—кампанія перавыбараў саветаў—падыходзіць да канца. Гэта кампанія праходзіць ва ўмовах разгорнутага сацыялістычнага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы. Клясавы вораг імкнецца ўсялякімі спосабамі пралезьці ў органы пралетарскай дыктатуры—саветы з тым, каб дэзарганізаваць іх работу. І вось тут-то неабходна быць на варце.

Клясава варожыя элементы не спыняюць сваей барацьбы супроць сацыялістычнага будаўніцтва, таму трэба арганізавана разгарнуць масавую падрыхтоўку да абраньня сапраўдных органаў дыктатуры пралетарыяту—саветаў з рабочых калгасьнікаў батрацтва і бедняцка-серэдняцкіх пластоў сялянства.

А між тым заўважана, што ў шмат якіх выпадках на мясцох ня зразумелі усю важнасьць правадзімай кампаніі. Ёсьць выпадкі вельмі слабай падрыхтаванасьці да гэтай кампаніі, што зусім зразумела дрэнна адбіваецца на пасьпяховае яе правядзеньне.

Пракуратура на мясцох павінна прыняць актыўны удзел у гэтай важнай палітычнай кампаніі, выпраўляць перагібы, якія заўважаны, таксама сыгналізаваць аб тых прарывах, якія маюцца па тым ці іншым вучастку. У Пракуратуры Рэспублікі на жаль яшчэ да гэтага часу німа ніякіх вестак аб удзелу пракурораў у перавыбарах, аб выпраўленьні тых перагібаў, якія былі ў тым ці іншым месцы, нават нявядома, як Пракуратура рэагавала на паасобныя выпадкі клясавых ворагаў, і якія формы клясавая барацьба прыняла і як з імі змагаліся ворганы Юстыцыі. Ворганы Юстыцыі, прызваныя весьці рашучую барацьбу з клясавым ворагам і павінны ў гэтай кампаніі праявіць асаблівую дзейнасьць і чоткасьць.

Аб усіх выпадках і формах клясавай барацьбы і аб барацьбе вучастковых пракурораў у гэтай галіне павінна быць паведамлена і Пракуратура Рэспублікі з тым, каб мець малюнак па ўсей Беларусі, з тым каб можна была сыгналізаваць і інфармаваць адпаведныя ворганы.

## Адмоўныя бакі у працы Нарсудоў па справам абвінавачваньня па 84, 90, 93, 152 і 155 арт. КК.

(Па матар'ялам абсьледваньня Нарсудоў).

Пленум ЦКК КПБ па дакладу аб рэвалюцыйнай законнасьці і становішчы судова—сьледчага апарату, між іншым, адзначыў: „праявы супраціўленьня капіталістычных элементаў мерапрыемствам па сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі і выцясненьню прыватна-капіталістычнага сэктару, даходзячыя да тэрарыстычных выступленьняў клясава-варожых элемэнтаў,-патрабуюць ад органаў Юстыцыі, праводзячых барацьбу з гэтымі праявамі, самага рашучага ўзмацненьня сваей дзейнасьці ў гэтай галіне, шырока выяўляючы клясавую сутнасьць гэтых спраў, спробы, прыёмы і формы, якія прымяняе нэпман у горадзе і кулак у вёсцы ў упартым супраціўленьні сацыялістычнаму будаўніцтву.“ Як жа нарсуды ў сваей практычнай працы выконваюць гэтае запатрабаваньне?

Жорстка, у вогуле, падаўляючы спробы клясавага ворага нанесьці шкоду сацыялістычнаму будаўніцтву, нарсуды ў паасобных выпадках тым ня менш дапускаюць шэраг памылак, зьніжаючых посьпехі органаў Юстыцыі, як праваднікa сацыялістычнага наступленьня пралетарскай дыктатуры.

Некаторыя суды не вядуць належнай барацьбы з праявамі антысэмітызму. Справы гэтага характару, як правіла слухаюцца бяз удзелу бакоў у сьценах суду, у выніку чаго інтэрнацыянальнае выхаваньне судом працоўных мас не ажыцьцяўляецца. Маецца значная частка выпадкаў, калі справы аб антысэмітызму разглядаюцца, як звычайнае хуліганства, чым змазываецца палітычны сэнс справы.

Так, Нарсуд Бярэзінскага раёну гр-на Забаронка Міколу, які па вуліцам крычаў: „жыдоўская ўлада душыць беднякоў, бей жыдоў, спасай Расію, мой бацька душыў жыдоў і я таксама буду душыць“ асудзіў па 107 арт. да аднаго году пазбаўленьня волі ўмоўна.

На частку паасобных прыгавараў рэагуе грамадзкасьць, паасобныя справы пападаюць ў Вярхсуд, дзе яны і атрымоўваюць належны напрамак. Значная жа частка ляжыць у Нарсудзе, так як Пракуроры ўдзеляюць зусім недастатковую ўвагу працы нарсуду.

Пралетарыят мабілізуе ўсе сваі сілы і сродкі на выкананьне пацігодкі ў чатыры гады. Варожыя элемэнты імкнуцца рознымі спосабамі перешкаджаць нашым вялізарным посьпехам ў сацыялістычнай рэканструкцыі народнае гаспадаркі. У прыватнасьці, з боку капіталістычных элемэнтаў - нэпманаў кулакоў, і мы назіраем упартае нежаданьне ўнасіць дзяржаве, накладзеныя на іх падаткі.

Улічваючы сац. небясьпеку гэтага дзеяньня ў сваі часы была павялічана карацельная санкцыя 93 арт. КК. Нажаль, некаторыя суды і да гэтых пор не зразумелі тае небясьпекі, якую маюць, учыняемыя гандлярамі і кулакамі дзеяньня, прадугледжаныя 93 арт. Кр. Кад.

Так, Касьцюковіцкі нарсуд па пяці справам гандлярам, кулакам, арэндатарам садоў (узросту ад 25 да 46 год) за няўзнос кожным падатку ў размеры ад 1000 да 2500 руб., абраў меру сацыяльнай абароны—пазбаўленьне волі ўмоўна.

У гэты жа самы час сярэдняк, за няўплату сельгас. падатку 69 руб. 23 кап., прыговоран да аднаго году пазбаўленьня волі. Абраньне такіх мяккіх мер да капіталістычных элемэнтаў, як гэта зрабіў Касьцюковіцкі Нарсуд, тлумачыцца выключна незразуменьнем клясавай сутнасьці разглядаемых спраў, аб гэтым сьведчыць, між іншым, ссылка суду, што асуджаныя не зьяўляюцца сацыяльна-небясьпечнымі асобамі.

Такое жа самае непаразуменьне таго, якое значэньне мае мабілізацыя сродкаў, дапусьцілі і судзьдзі Бярэзінскага раёну. Яны за неплацёж гандлярамі падаткаў ад 5 да 6 тысяч абіралі такія меры, як 10-12 месяцаў прымусовых прац.

Абіраемыя меры сацыяльнай абароны павінны, між іншым, папярэджваць учыненьне сацыяльна—небясьпечных дзеяньняў.

Зусім зразумела, што вышэй паказаныя прыгаворы Касьцюковіцкага і Бярэзінскага нарсудоў ня могуць зрабіць належнага ўплыву на неплацельнікаў падаткаў—нэпманаў і кулакоў.

Пералік падобных прыгавораў, як памянёныя вышэй, можна было-бы працягнуць з практычнае працы іншых судоў: Пятрыкаўскага, Клічаўскага і другіх. Але названых прыкладаў будзе дастаткова. Калі яшчэ ўлічыць, што справы па 93 арт. КК. знаходзяцца ў вытворчасьці доўгі час, адкладваюцца слуханьнем па некалькі раз, дык трэба канстатаваць, што ня ўсе яшчэ суды па названым справам зьяўляюцца аружжам пралетарскай дыктатуры.

За апошнія месяцы з боку варожых элемэнтаў, наглядаецца нявыпуск разьменнае манеты на рынак. Гаварыць аб тым наколькі небясьпечнае гэтае дзеяньне ня прыходзіцца. Але тым ня менш нарсуд Пятрыкоўскага раёну да двух грамадзянак, у якіх была знойдзена дробная сярэбраная манэта ў размеры 40—50 руб., палічыў неабходным абраць штраф-10 і 25 руб. Такія мяккія меры сацыяльнай абароны, па названай катэгорыі спраў, абірае і нарсуд 3 га вуч. гор. Менску, і судзьдзі Бярэзінскага раёну.

Трэба падкрэсьліць, што наглядаецца таксама шэраг выпадкаў не належнага рэагаваньня і на сацыяльна-небясьпечныя дзеяньня, з боку капіталістычных элемэнтаў, прадугледжаныя 152 і 155 арт. арт. КК.

Паўстае пытаньне, чым тлумачацца памянёныя недахопы ў працы судоў?

На гэта можна даць толькі адзін адказ: нарсудзьдзі ня ўлічваюць, ня вывучаюць, належным чынам, пастаноў партыйных і савецкіх органаў.

Адгэтуль вывад толькі паўсядзённая работа працаўнікоў Юстыцыі над падняцьцём свайго палітычнага ўзроўня, сваей палітачнае сьвядомасьці, толькі правільнае праламленьне дырэктыў у практычным жыцьці дасьць магчымасьць зьнішчыць тыя недахопы і памылкі, якія наглядаюцца ў сучасны момант пры вырашэньні паасобных спраў, дасьць магчымасьць правільна выконваць тыя задачы, якія стаяць перад намі.

**Юрашкевіч.**

## Да вынікаў куставых нарад.

Адказнейшыя задачы, якія стаяць перад Савецкім апаратам у час рэканструкцыі народнай гаспадаркі, як у горадзе таксама і на вёсцы, выклікалі неабходнасьць наближэньня яго да працоўных мас.

У сувязі з гэтым, згодна пастановы XVI-га партзьезду былі ліквідаваны акругі і ўся адказнасьць за працу на мясцох ускладзена на раёны.

Зусім зразумела, што апшнія змогуць выканаць усе задачы, якія перад імі стаяць толькі тады, калі будзе наладжана сапраўдная жывая сувязь з цэнтральнымі ўстановамі, а ня толькі сухое папяровае кіраўніцтва.

Вось чаму НКЮ, перабудоўвая свае мэтады кіраўніцтва мейсцамі, лічыць неабходным у першую чаргу правесьці так званыя куставыя нарады працаўнікоў суду, пракуратуры, сьледства і ворганаў дазнаньня. Каб наладзіць сувязь, каб добра кіраваць і дапамагаць у працы неабходна ведаць умовы працы на мясцох, становішча гэтай працы і жывы матар“ял, які праводзіць яе.

Якія-ж вынікі гэтых нарад?

1) Раённыя працаўнікі разумеюць тыя палітычна-гаспадарчыя задачы, якія перад імі стаяць, ужо маецца некаторы зрух у сэнсе падхопліваньня іх не чакаючы непасрэднай дырэктывы ад НКЮ. Але побач з гэтым тэмпы рапцыяшчэ не адпавядаюць

запатрабаваньням часу, назіраюцца выпадкі хвасьцізму і адсутнічае неабходная чоткасьць у працы. Трэба навучыцца ня толькі жорстка рэагаваць на ўжо маючыя мейсца вылазкі з боку клясавазарожага элементу, а іх недапушчаць; трэба так пастройць працу, каб папярэджваць тыя ці іншыя скрыўленьні, якія па гэтага часу нажаль маюць мейсца з боку паасобных працаўнікоў савецкага апарату, а ня толькі біць па тым, якія ўжо былі.

Зразумела, што выкананьне гэтага магчыма толькі тады, калі наш апарат будзе цесна зьвязан з грамадзкасьцю, якая будзе сыгналізаваць нам аб усім тым, што патрабуе нашага ўмешацельства.

Апроч таго неабходна дабіцца, і гэты абавязак НКЮ бярэ на сябе, каб адказныя працаўнікі суду і пракуратуры не адрываліся ад сваей непасрэднай працы на месяцы ў якасьці ўпаўнаважаных для правядзеньня гаспадарчых кампаній, а мелі бы магчымасьць з самага пачатку кожнай кампаніі непасрэдна сачыць за яе правядзеньнем і з самага пачатку біць па тым балячкам, якія перашкаджаюць пасьпяховаму іх правядзеньню.

2) Умовы працы вельмі разнастойныя па паасобным раёнам, але наогул яшчэ ня могуць лічыцца здавальняючымі.

Так ня гледзячы на адпаведныя пастановы кіруючых органаў яшчэ назіраецца, праўда паасобныя выпадкі, калі мясцовыя кіруючыя установы даюць суду і пракуратуры прапановы пры развязаньні канкрэтных спраў. У паасобных раёнах з боку кіруючых органаў няма досыць уважлівых адносін да пастаноўкі працы органаў юстыцыі ў належныя ўмовы. Непрадстаўленьне памяшканьня, выбрасваньне суду з ужо займаемага, неасыгнаваньне мінімальна патрэбных грошай на разьезды і г. д.

Нездавальняючы абстаіць справа з забяспячэньнем заканадаўчым матар"ялам і юрыдычнай літаратурай. У сапраўднасьці, нельга не згадзіцца з прадстаўнікамі мейсц, якія на нарадах скардзяцца, што за адсутнасьцю КПК, адміністр. кодэксу і іншых, яны ня маюць чым кіравацца і няўмысна робяць памылкі, што выдаваемы бюлетэнь НКЮ па зьместу ня можа здаволіць. Нельга не згадзіцца і другім паказаньнем прадстаўніка з мейсц, што НКЮ некалькі спазняецца з дачай сваіх дырэктыў, што жывая сувязь яшчэ не наладжана, што інструктаваньне таксама яшчэ досыць не адчуваецца і асабліва па лініі пракуратуры, што Вярхсуд павінен перабудаваць сваю працу такім чынам, каб не трымаць месяцамі касацыйныя справы, бо своечасовы іх зварот значна дапамагае судзьдзям заўважваць свае памылкі і недапушчаць іх наперад.

Таксама патрабуюць тэрміновага рэагаваньня і заўвагі аб умовах працы органаў дазнаньня. Гэтыя заўвагі ў галоўным зводзяцца: пасьля ліквідацыі акруг кіраваньне НКСУ яшчэ не наладжано, зусім дрэнна абстаіць справа з спэцвопраткай; пытаньне кадраў не наладжана і існуючыя ў Менску курсы па перападрыхтоўцы не здавальняюць запатрабаваньням да іх; адсутнічае належная палітычна-выхаваўчая праца і праца па падвышэньню сваей непасрэднай кваліфікацыі; органы дазнаньня загружаны ўселякай дробязьзю не патрабуючай расьследваньня; надта цяжкія ўмовы трыманьня пад вартай ў раёнах.

Дрэнна абстаіць справа з абаронай. У частцы раёнаў яе зусім няма. Прэзыдыўм Цэнтр. кал. зусім не кіруе і не дапамагае мейсцам.

3)—Што датычыцца да становішча працы, дык па матар"ялам нарад мы маем наступнае:

а) Нарсуды значна разгрузіліся ад дробных спраў і ў сваей большасьці маюць магчымасьць здоліць разгляд тых складаных спраў, асабліва службовых, якія зараз да іх перайшлі, але неабходна, каб Вярхсуд сваю кас. практыку праз бюлетэнь даваў да ведама мейсц, што дапаможа ім не дапушчаць паасобных памылак.

б) Праца таварыскіх і сельскіх судоў яшчэ не пастаўлена на патрэбную вышыню і з боку нарсудоў ня зьвернута досыць увагі на іх інструктаваньня і дапамогу ў працы.

в) Пракуратура яшчэ не разгарнула сваю працу па ўдзелу ў судовых пасяджэньняў і асабліва па судоваму нагляду. Ня ўсюду існуе інстытут грамадзкіх абвінавайцаў.

г) Нездавальняючы абстаіць справа з выкананьнем прыгавароў і асабліва прымусовых прац.

д) Нарсуд і вуч. пракуратура зусім не займаюцца вывучэньнем спраў па паасобным відам сацыяльна-небясьпечных дзеяньняў, чаму самі зусім пазбаўлены магчымасьці рабіць аналіз сваей працы:

е) Як нарсуд, таксама і Пракуратура ўсё яшчэ досыць адарваны ад працоўных мас, перад імі амаль, што не адлічваюцца і іх у сваю працу не ўцягваюць.

ж) Пракуратура па агульнаму нагляду яшчэ не перабудавала на мясцох форм працы, так амаль нідзе няма брыгад садзейнічаньня, нарад па барацьбе з злачынасьцю як адным з агульных мэтадаў працы.

з) Недастатковы нагляд Пракуратуры па прац. справам і за тэхнікай бясьпекі;

і) Ня зьвернута дастатковая ўвага на падвышэньне якасьці сьледства і нагляду з боку сьледчых за працай органаў дазнаньня, што зараз пры значным паменшэньні сьледственных спраў ў сьледчых павінна заняць адно з першых мейсц у іх працы. Яшчэ і да гэтуль назіраецца штампаваньне пракуратурай сьледственных спраў;

к) Зусім амаль адсутнічае ўдзел судова-пракурорскіх працаўнікоў ў друку.

4)—Апошняе пытаньне на якім трэба застанавіцца, гэта пытаньне кадраў. Наогул праведзеныя нарады паказалі значнае палепшаньне сацыяльнага складу працаўнікоў Юстыцыі, галоўным чынам за кошт рабочых—вылучэнцаў.

Але самая наяўнасьць іх патрабуе з боку НКЮ больш зьвярнуць увагі да падвышэньня іх кваліфікацыі, чаму нельга не згадзіцца з прапановамі большасьці нарад аб скліканьні Усебеларускай нарады—вылучэнцаў, працуючых у органах Юстыцыі і Н. К. У. С, тэрміновага адчыненьня курсаў пры НКЮ, накіраваньня большай колькасьці на факультэт Саўбуду і права пры БДУ.

Вось асноўныя вынікі нарад.

У наступным нумары бюлетэня мы дадзім, як канкрэтна НКЮ падыйшоў да правядзеньня іх у жыцьцё.

**П. Курочкін**

## Аб грамадзкіх абвінаваўцах

Праверкай працы органаў Пракуратуры устаноўлена што Пракуратура рэдка удзельнічае пры разглядзе вельмі важных, маючых грамадзка-палітычнае значэньне спраў - у судзе. Ёсьць такія прыклады, калі судзьдзя папрацаваўшы доўгі тэр ін у тым ці іншым вучастку ні разу не разглядае справы з удзелам пракуратуры, бо апошні амаль зусім гэтай працы не ўдзеляе ўвагі. За апошні час прыходзілась прагледжываць цэлы шэраг спраў па 84 арт. КК. Ня гледзячы на важнасьць гэтай катэгорыі спраў, неабходнасьці барацьбы з разжыганьнем нацыянальнай розьні, стварэньнем адпаведнай грамадзкай думкі вакол іх, пракуратура тут ня прымала ніякага ўдзелу.

Вакол справы ачышчэньня нашага Савецкага апарату ад бюракратаў, злачынцаў, прымазаўшыхся да апарату і шкодзячых яму прыватнікаў, чужых элемэнтаў павінна канцэнтравацца праца органаў юстыцыі і трэба прыдаваць гэтай справе належную увагу, а між тым мы маем такі абураючы прыклад, калі Слуцкая Пракуратура палічыла непатрэбным прыняць удзел у разглядзе справы мясанарыхтоўчых арганізацый Случчыны, па якой справе прыцягвалась да адказнасьці 32 асобы, у большая сваёй частцы былыя гандляры пралезшыя ў савецкі апарат, займаўшыхся парушэньнем конвэнцыйных цэн, падлогамі, растратамі, ў выніку чаго нанесена вялікая шкода дзяржаве. Гэта справа нарсудом была змазана. Грамадзка-палітычнае значэньне забясьпечаньня мясам рабочага спажыўца не ўлічана, чаму суд значную колькасьць гэтых службовых асоб апраўдаў, а астатнім вызначана не адпаведаючая сацыяльнаму небясьпечнаму дзеяньню -мера сац. абароны. Справа каскалегіяй адменена і прынята да разгляду Суд. Калегіяй Вярх суду.

Магчыма прывесьці яшчэ цэлы шэраг прыкладаў, але і гэтых дастаткова для таго, каб зрабіць адпаведныя вывады. Пракуратуры неабходна прымаць удзел пры разглядзе спраў, маючых грамадзка-палітычнае значэньне дзеля чаго заўсёды быць у курсе спраў, прызначаных да слуханьня і не чакаючы выкліку суда, самім вызначыць пэўныя катэгорыі спраў неабходных слухаць з удзелам бакоў.

Так як аднаму Пракурору, занятаму і праводзячаму працу па цэламу шэрагу іншых галін працы -не заўсёды маецца магчымасьць прыняць непасрэдны удзел, то гэта абставіна яшчэ і яшчэ раз высоўвае пытаньне арганізацыі, не на паперы, а ў сапраўднасьці інстытуту грамадзкіх абвінаваўцаў, праводзячы з апошнімі сталую працу і ўтварыўшы з іх актыў пракуратуры.

Трэба зараз жа ў час правядзеньня перавыбараў нарзасядацеляй, абраць найбольш падрыхтаваных і вытрыманых рабочых, калгасьнікаў, батракоў дзеля ўдзелу ў разглядзе спраў, маючых грамадзка-палітычнае значэньне. Ні адна справа гэтай катэгорыі, не павінна слухацца бяз удзелу самой грамадзкасьці.

Зэгер.

## Тры вопыта

(Барысаў)

Я хачу падзяліцца некаторым вопытам з работы Барысаўскай Пракуратуры, які бязумоўна станоўча адбіваецца на рабоце органаў Пракуратуры і які па майму можна рэкамэндаваць і іншым гарадзкім пракуратурам.

Барысаўская Пракуратура ўключылася у вытворчыя манэўры па камбінацкай тыпографіі, ўдзел яе ў гэтай працы заключаецца ў тым, каб дапамагчы замацаваць вынікі вытворчых манэўраў.

Адзін з працаўнікоў пракуратуры прысутнічае на сходах рабочых, на вытворчых нарадах, дапамагаючы асобнымі сваімі паказаньнямі і парадамі ў іх рабоце.

У сувязі з тым, што на ф-цы „Чырвоная Бярэзіна“ і „Пролетарская перамога“, маецца значны прарыў у выкананьні промфінпляну, мы парашылі ўключыцца таксама і ў вытварчыя манэўры гэтых прадпрыемстваў і дапамагчы шляхам рэагаваньня на месцы, на непаладкі якія яшчэ маюцца на вытворчасьці. Для гэтай мэты туды была накірована сьледчая брыгада з сьледчага і агэнта Крымвышуку, якія вытвараюць расьледваньне аб прычынах прарыву ў асобных цэхах і вінаватыя ў злачыннай нядбайнасьці прыцягваюцца да судоадказнасьці.

У час расьледваньня, сьледчая брыгада выявіла шэраг непарадкаў як-та: у аўтаматычным цэху маецца шэраг паломаў аўтаматаў, таксама не ўстаноўлена, хто адказвае за пуск аўтаматаў і г. д. У такіх выпадках сьледчыя на месцы рэагуюць на гэтае зьявішча, ставячы пытаньне перад адміністрацыяй.

Да гэтай работы прыцягваюцца асобныя рабочыя.

Работа сьледчай брыгады вытвараецца толькі на фабрыцы. Вынікамі такога расьследваньня зьяўляецца тое, што сьледчыя маюць магчымасьць азнаёміцца і ведаць працэс вытворчасьці і гэтым самым рэагаваць на мейсцы на асобныя непарадкі. Вялізарнае значэньне набывае тое, што сьледства праходзіць не габінэтным парадкам самім сьледчым, а ў гэтую працу ўцягваецца рабочая грамадзкасьць.

2) За апошні час у нас бываюць выезды суду на вёску. Мы ўвялі наступны вопыт. Пасьля судовага пасяджэньня, а ў весцы на суд прыходзіць заўсёды многа сялян, у час увахода суда на нараду, пракурор праводзіць гутарку з сялянамі па пытаньням якія яны самі высоўваюць, альбо лепш кажучы вечар пытаньняў і адказаў. Гэты вопыт намі праведзен у некалькіх вёсках і сяляне з інтарэсам сядзелі на гэтых вечарох задаваючы розныя пытаньні. Гэта дае магчымасьць пракурору растлумачваць асобныя законы і дырэктывы партыі.

3) За апошні час Барысаўская Пракуратура прыцягнула да сваей працы групу лёгкіх кавалерыстых.

Яны праверылі ход нарыхтовак па нарыхтоўчым арганізацыям і як здаюцца ў Дзяржбанк грошы па пазыцы 5-ці годка ў 4 гады. У выніку іх работы мы аддалі пад суд Райкоопсаюз, бухгальтэрыю ЦРК, далі шэраг паказаньняў заводу „Домбаль“, санпрамсаюзу аб палепшаньні працы па збору грошай па пазыках.

Дрэнна яшчэ тое, што гэтыя групы не замацаваны стала за пракуратурай, аб чым пастаўлена пытаньне.

**Зэйфман.**

## Практыка Верхсуду.

19 Сьнежня 1930 году Выязная Сэсія Судовай Калегіі Вярхоўнага Суду разгледзела дзьве справы па абвінавачаньню тылавых апалчэнцаў, прызваных у каманду тылавога апалчэньня, Рудзенка Паўла, Ладуцька Ільлю і Вашкевіча Рыгора за адмову выйсьці на працу; Рудзенка па рэлігійным пераканаwньням, а Ладуцька і Вашкевіч за сваевольную адлучку з інтэрната, ня выкананьня прыказа камандыра каманды і сваевольны ўход з днявальнага дзяжурства і на аснове арт. 6—82 КК прыгаварыла да пазбаўленьня волі; Рудзенка на 2 гады, Ладуцька на 3 гады і Вашкевіча на 1 год і 6 месяцаў.

Неабходна адзначыць, што Судовая Калегія прыдавая значэньне гэтай катэгорыі спраў, яшчэ ня меўшых месца ў нашай судовай практыцы, з пункту гледжаньня сацыяльнай небясьпечнасьці гэтай катэгорыі злачынстваў, прыняла іх да свайго вытворства, каб гэтым самым зьвярнуць увагу судовых ворганаў БССР на тое, што ўсялякая спроба, накіраваная к парушэньню ўстаноўленага парадку ў камандах тылавога апалчэньня, павінна сустрэч шпаркі і жосткі адпор з боку судоў, бо парушэньне гэтага парадку зьяўляецца злачынствам сацыяльна-апасным, патаму напраўлена да зрыву тых плянавых работ, якія ўзложаны Урадам на каманды тылавога апалчэньня.

**Жылінскі.**

## Законапраэкты па судабудаўніцтву

Ліквідацыя акруг выклікала значную зьмену падсуднасьці нашых судовых органаў, а таксама рэконструкцыі ў органах суда, сьледства і пракуратуры. У зьвязку з гэтым зьявілася неабходным перапрацаваць існуючае палажэньне пра судабудаўніцтва БССР, якое было выдана яшчэ ў 1925 г. і цяпер нягодна.

Часткова ў зьвязку з той жа рэарганізацыяй Саюзны Урад выдаў спэцыяльны закон „пра арганізацыю сельскіх судоў“ (З. З. Саюзу ССР 1930 г. № 51, арт. 53), які вызначае асноўныя палажэньні аб конструкцыі і падсуднасьці сельскіх судоў і аб праўдзеньні нагляду за імі. На падставе гэтага трэба было перапрацаваць і наша існуючае палажэньне пра сельскія і местачковыя суды.

Сучасны момант высунуў пытаньне і пра пашырэньне падсуднасьці і праў таварыскіх судоў і пра неабходнасьць зьмены і дапаўненьня палажэньня пра гэтыя суды.

Усё вышэйпаказанае дало падставы Народнаму Камісарыяту Юстыцыі распрацаваць і падаць ў заканадаўчыя органы наступныя тры законапраэкты:

а) Палажэньне аб судабудаўніцтве БССР,
б) Палажэньне пра сельскія і местачковыя суды і
в) Палажэньне пра таварыскія суды.

Кожны з гэтых праэктаў перад паданьнем у Савет Народных Камісараў абмеркаваўся на пасяджэньнях Пленуму Вярхоўнага Суду БССР і Калегіі НКЮ, праэкт жа палажэньня пра таварыскія суды апроч таго абмяркоўваўся на сходзе рабочых падшэфнага НКЮ прадпрыемства і адбіває такім чынам думку рабочых, якія беспасрэдна ўдзельнічалі ў яго абмеркаваньні.

Палажэньне пра судабудаўніцтва і палажэньне аб сельскіх і местачковых судах ужо прынята Падрыхтоўчай Камісіяй СНК, палажэньне пра таварыскія суды гэтымі днямі будзе разгледжана.

З надворнага боку ўсе тры законапраэкты імкнуцца даць як мага больш кароткія, ясныя па форме і па разьмеркаваньні матар'ялу палажэньні. Палажэньне аб судабудаўніцтве, напрыклад будзе мець менш 60 артыкулаў замест 114 артыкулаў, якія мае існуючае цяпер палажэньне.

1. З прычыны ліквідацыі акруг і акруговых судоў праэктуемае палажэньне аб судабудаўніцтве прадугледжвае толькі два віды суда, якія ўваходзяць у адзіную судовую сыстэму—гэта суды народныя і Вярхоўны Суд.

Прымаючы пад увагу ўсё павялічваючаяся значэньне таварыскіх, сельскіх і местачковых судоў, праэкт дае паказаньне аб тым, што побач з дзяржаўнымі судамі адзінай судовай сыстэмы існуюць суды грамадзкія, якімі зьяўляюцца таварыскія, сельскія і местачковыя суды, разглядаючыя пэўныя катэгорыі дробных крымінальных і грамадзянскіх спраў.

Як і новыя законы пра зьмену нашых працэсуальных кодэксаў, праэктуемае палажэньне рашуча заменяе касацыйны парадак разгляду спраў, вырашаных першай інстанцыяй, парадкам рэвізыйным. Калі на пастанову народнага суда падана старанай ці старанамі скарга альбо пратэст пракурора, то гэта зьяўляецца для Вярхоўнага Суду падставай, каб перагледзець пастанову суда першай інстанцыі. Але Вярхоўны Суд не зьвязан пакаузаньнямі скаргі ці пратэсту, як гэта бывае пры касацыйным парадку, а пераглядае „рэвізуе“ усю справу і можа скасаваць пастанову суда першай інстанцыі зусім не па тых матывах і падставах якія паказваліся ў скарзе ці пратэсьце.

З прычыны значнага павялічэньня пасьля ліквідацыі акруговых судоў работы Вярхоўнага Суду, штаты апошняга павялічаны, а ў выніку гэтага ў пленарных пасяджэньнях Верхсуду прымае ўдзел шмат асоб. Каб стварыць калегіяльны орган, які і па ліку яго членаў і па кваліфікацыі апошніх мог бы ў якасьці рабочай часткі часткова замяніць Пленум Вярхсуда, праэкт Палажэньня пра судабудаўніцтва, па прыкладу заканадаўства РСФСР і УССР, прадугледжвае арганізацыю побач з Пленумам яшчэ і Прэзыдыум Вярхоўнага Суду з перадачай Прызыдыуму вырашэньня часткі тых пытаньняў, якія цяпер вырашаюцца пленумам. Прэзыдыум паводле праэкту складаецца з 7 чле-

наў і Старшыні Вярхсуду, старшынь калегій і членаў Вярхсуду, якія ўключаюцца ў склад Прэзыдыуму Вярхсуду пастановай Прэзыдыму ЦВК БССР.

Прымаючы далей пад увагу, што з часу выданьня новага палажэньня пра НКЮ (З. З. БССР 1929 г. № 21 п. 121) усе функцыі былога аддзелу Судабудаўніцтва НКЮ перайшлі да Вярхоўнага Суда і што з ліквідацыяй акруговых судоў работа па інструктаваньні народных судоў значна павялічваецца, праэкт прадугледжвае арганізацыю ў складзе Верхсуда асобнай інструктарска-рэвізыйнай групы.

Такім чынам, паводле праэктуемага палажэньня Вярхсуд дзейнічае ў складзе: а) Прэзыдыуму, б) Пленуму, в) судовай і касацыйнай калегій па крымінальных справах, г) судова касацыйнай калегіі па грамадзянскіх справах і д) інструктарска-рэвізыйнай групы.

Асноўнай судовай ячэйкай паводле праэктуемага палажэньня зьяўляецца народны суд г. зн. народны судзьдзя і 2 народных заседацялі. Таму ў праэктуемым палажэньні ўдасканалены правілы пра парадак выбару нарзасядацёляў. Каб забясьпечыць бесперабойную работу нарсуда, праэкт прадугледжвае вылучэньне з ліку нарзаседацеляў па аднаму заседацелю для кожнага вучастку для выконваньня абавязкаў нарада судзьдзі калі яго няма. Такое вылучэньне (сьпіс вылучаных нарзаседацеляў) дапаможа ўцягваньню працоўных мас у работу нарсуда.

Праектуемае палажэньне дае, далей, ясныя і пэўныя правілы пра пракуратуру. Згодна праэкту на чале Пракуратуры стаіць Пракурор Рэспублікі прычым кіраўнікамі па паасобных галінах пракурорскае работы зьяўляюцца памочнікі Пракурора Рэспублікі (агульнага нагляду, па справах ДПУ, па Вярхоўнаму Суду, па працопных справах, па зямельных справах і па нагляду за органамі сьледства і месцамі зьневальненя). Гэтым памочнікам Пракурора Рэспублікі падпарадкаваны яшчэ пракуроры-функцыянэры, праз якіх праводзіцца бягучая работа.

Мясцовымі органамі прокуратуры зьяўляюцца вучастковыя і гарадзкія пракуроры.

На тэрыторыі раёну альо гораду такі пракурор, назначаемы Пракурорам Рэспублікі, мае права падаваць у раённыя выканаўчыя камітэты пратэсты на незаконныя пастановы, цыркуляры і загады падпарадкаваных ім саветаў, а таксама падаваць у РВК і горсаветы прапановы аб скасаваньні і зьмене іх пастаноў і загадаў, калі яны неаапавядаюць закону; калі такая прапанова вучастковага пракуроа РВК нездаволена, ён можа праз Пракурора Рэспублікі падаць пратэст у ЦВК альбо ў Савет Народных Камісараў.

Разам з тым устаноўлена, што ў выпадку апратэставаньня пастановы РВК, выкананьне такой пастановы прыпыняецца да часу разгляду СНК альбо ЦВК пададзенага Пракуратурай пратэсту.

Параўнальна з існуючым палажэньндм аб судабудаўніцтве праэкт уводзіць і некаторыя прынцыповыя зьмены. Так, напрыклад, даецца паказаньне па арганізацыі грамадзкай абароны і грамадзкіх абвінаваўцаў, а таксама аб прыцягненьні прадстаўнікоў грамадзкіх і коопэрацыйных арганізацый да выкананьня паасобных сьледчых дзеяньняў.

Далей, праэктам зусім касуецца інстытут судовых выканаўцаў, функцыі якіх передаюцца міліцыі.

II. Прыняты Падрыхтоўчай Камісіяй праэкт Палажэньня пра сельскія і местачковыя суды, параўнальна з існуючым палажэньнем, унёс наступныя істотныя зьмены:

а) зьмяніў падсуднасьць,

б) зьмяніў меры сацыяльнае абароны і

в) зьмяніў парадак нагляду.

На падставе агульнасаюзнага закона „пра арганізацыю сельскіх судоў“ з падсуднасьці сельскіх і местачковых судоў зусім выключаюцца справы аб самаўпраўстве, справы аб крадзежу і наўмысным зьнішчэньні ці псаваньні чужое маёмасьці. З другога боку, падсуднасьць сельскіх і местачковых судоў пашыраецца справамі аб парушэньні грамадзкага парадку і бясьпекі і справамі аб парушэньні правіл аховы здароў'я (апроч выпадкаў, паказанных у арт. 112 Крым. Код.), якія цяпер вырашаюцца ў адміністрацыйным парадку.

Апроч таго, на сельскія і местачковыя суды ускладаецца вырашэньне ўсіх спрэчак аб праве на зямлю працоўнага карыстаньня і справы аб разьдзелах двароў і выплаце членам двароў пры выхадзе іх з гаспадркі, а таксама іскі аб заработнай плаце, аб аплаце звышмерных работ і аб спэцвопратцы, калі сума іску не перавышае 25 р. гэтым жа судам даецца права прысуджаць аліменты, калі няма спрэчкі на бацькаўшчыне.

З ліку мер уздзейнічаньня, якія сельскі ці местачковы суд можа ўжываць да праваларушніка, выключан выгавар, штраф дазваляецца назначаць толькі да 10 руб. (замест 25 руб., як гэта обіцца цяпер) і прымусовыя работы толькі да 5 дзён (замест 15).

Праэктуемы палажэньнем, далей, устанаўляецца новы парадак скасаваньня пастаноў сельскіх і местачковых судоў у парадку нагляду. Парадак гэты наступны: калі народны судзьдзя альбо адпаведны вучастковы пракурор прызнае, што пастанова сельскага ці местачковага суда парушае закон альбо парушае інтарэсы працоўных ці дзяржавы, дык ён неадкладна прыпыняе выкананьне пастановы сельсуда і справу для пера ляду ў парадку нагляду ўносіць у народны суд, пастанова якога ўжо ніякаму перагляду не падлягае.

III. Як ужо было вышэй паказана, НКЮ ўнёс у СНК БССР праэкт новага палажэньня пра таварыскія суды. Поводам для перапрацоўкі палажэньня пра таварыскія суды зьявілася пастанова ВЦСПС за 8/IX 30 г. (пратакол № 67) аб увядзеньні на прадпрыемствах асобных **вытворча-таварыскіх судоў** для вырашэньня спраў аб парушэньні працоўнае дысцыпліны.

Пасьля доўгага абмеркаваньня пастаўленага пытаньня Калегія НКЮ і Пленум Вярхоўнага Суду прыйшлі да вываду аб тым, што для сапраўднага ажыцьцяўленьня змаганьня з парушэньнямі працоўнай дысцыпліны не мэтазгодна арганізоўваць побач з таварыскімі судамі яшчэ і асобных вытворча-таварыскіх судоў. Гэты вывад быў ухвален таксама і на агульным сходзе аднаго з Менскіх прадпрыемстваў і на цэлым шэрагу куставых нарад судова-сьледчых працаўнікоў.

Прымаючы пад увагу, што таварыскія суды, за час свайго існаваньня, набылі пэўны аўтарытэт сярод рабочых, што праз арганізацыю побач з

таварыскімі, яшчэ вытворча-таварыскіх судоў—пацягне за сабою разьбіўкі сіл і што існуючыя таварыскія суды, як суды грамадзкія, арганізуючыя пралетарскае ўздзейнічаньне на таго ці іншага таварыша, калі ён зрабіў які-небудзь анці грамадзкі ўчынак, лёгка перавесьці на пытаньні вытворчага характару. НКЮ застанавіўся на думцы аб тым, што на таварыскія суды на прадпрыемствах і пры ўстановах трэба ўскласьці разгляд спраў аб нарушэньні працоўнай дысцыпліны, надаўшы ім права за такія ўчынкі нават звальняць з пасады, прычым праэктам забараняюцца за парушэньне працоўнай дысцыпліны накладаць на вінаватых грашовыя штрафы.

Маючы на ўвазе, што Падрыхтоўчая Камісія СНК БССР яшчэ не вырашыла прынцыповага пытаньня аб тым, ці трэба побач з таварыскімі судамі арганізоўваць вытворча-таварыскія суды, мы далей пакуль што ня будзем застанаўляцца на іншых зьменах, якія прапануюцца праэктам. Было-б вельмі пажаданым, каб судовыя працаўнікі з мейсц выказалі сваю думку па гэтым пытаньні.

## Аб пастанове прэзыдыуму ЦВК БССР аб ільготах былым чырвоным партызанам, чырвонагвардзейцам і іх сем'ям.

Пастановай Прэзыдыуму ЦВК БССР за 30/X-г. „па дакладу аб праверцы выкананьня пастаноў Ураду СССР і БССР аб ільготах былым чырвоным партызанам, чырвонагвардзейцам і іх сем'ям" адзначана, што паказаныя пастановы выконваюцца нездавальняюча, у асаблівасьці з боку зямельных органаў, органаў аховы здароўя і асьветы, а таксама і з боку НК Сац. забясьпячэньня.

Прэзыдыумам ЦВК дадзены адпаведныя паказаньні, як цэнтральным, гэтак і мясцовым органам і даручана НКЮ сачыць за дакладным выкананьнем пастаноў Ураду аб ільготах паказанай катэгорыі асоб, прыцягваючы да адказнасьці службовых асоб, якія ня выканаюць гэтых пастаноў.

Пагэтаму зварачваецца ўвага вучастковых і гарадзкіх пракурораў на паказаныя няўважлівыя адносіны адпаведных органаў да гэтай важнай справы і на тое, што з боку вучастковай пракуратуры ня прымалася да гэтага часу адпаведных мер.

## Адказы на запытаньні з месц.

**1. Пытаньне.** Якія меры ўздзейнічаньня павінны ўжывацца да старшынь і членаў (местачковых) судоў, калі яны адмаўляюцца ад выкананьня ўскладзеных на іх Палажэньнем пра гэтыя суды абавязкаў? (Запытаньне нарсудзьдзі Брагінскага раёну).

**Адказ** Для пасьпяховага выкананьня пастаўленых перад сельскімі (местачковымі) судамі такіх важных палітычных задач, як прыцягненьне шырокіх працоўных мас сялянства да апарату дзяржаўнага кіраўніцтва і барацьба з дробнымі выпадковымі правапарушэньнямі шляхам дапасаваньня да правапарушнікаў мер культурна—выхаваўчага характару, неабходна, каб у склад членаў сельсудоў уваходзілі лепшыя адданыя савецкай уладзе прадстаўнікі сялянскага актыву, якія дабравольна жадалі-б і маглі-б выконваць ускладаемую на іх Палажэньнем пра паказаныя суды працу, а не выконвалі-б гэткую пад пагрозай толькі магчымасьці дапасаваньня да іх строгіх мер рэпрэсіі.

Па гэтаму адносна тых старшынь і членаў сельскіх (местачковых) судоў, якія нядбайна адносяцца да выкананьня сваіх абавязкаў або ўхіляюцца ці й зусім адмаўляюцца ад выкананьня гэткіх, належыць паведамляць мясцоваму сельскаму (местачковаму) савету на прадмет прыняцьця адпаведных мер таварыскага ўзьдзейнічаньня на грамадзкіх сходах, альбо, у выпадку неабходнасьці, і адкліканьня такіх асоб ад займаемых імі пасад абраўшымі іх выбарчымі сходамі і замены іх новымі кандыдатурамі.

(Растлумач. НКЮ № 221 н/109 за 22/IX-30 г. Нарсудзьдзі Брагінскага раёну).

**II. Пытаньне.** Як паступіць суду са зварочанымі міліцыяй без выкананьня выканаўчымі лістамі аб спагнаньні па судовых прыгаварох штрафаў з кулакоў, уся маёмасьць якіх перададзена калгасам і якія (кулакі)высланы за межы БССР і месцазнаходжэньня іх невядома? (Запытаньне Нарсудзьдзі Чэрвенскага раёну).

**Адказ.** Згодна п. 8-му пастановы ЦВК і СНК СССР за 2/IV-30 г. „аб новых ільготах для калгасаў і іх членаў" (Зб. Зак. СССР № 21 за 1930 г., арт. 230) калгасы вызваляюцца ад пагашэньня запазычнасьці па перададзенай ім маёмасьці, канфіскаванай у кулакоў.

Пагэтаму паступіўшыя ў суд ад выканаўчых органаў без выкананьня выканаўчыя лісты аб спагнаньні штрафаў з кулакоў, якія высланы за межы БССР і ўся маёмасьць якіх перададзена калгасам, падлягаюць далучэньню па рэзалюцыі на іх Нарсудзьдзі, накладаемай у адпаведнасьці з вымаганьнямі вышэйпаказанай пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР, да адпаведных спраў, як і наогул па ўсіх скончаных вытварам справах. (Растлумач. НКЮ № 222 н/109 за 22/IX-30 г. Нарсудзьдзі Чэрвенскага раёну).

**III. Пытаньні:** а) Ці зьнімаецца судзімасьць на падставе пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР за 10/VII-30 г. аб амністыі ў адзнаку 10-ці годзьдзя вызваленьня БССР ад белапалякоў з асуджаных, якія пазбаўлены выбарчых правоў пасьля набыцьця прыгаварам суду законнай сілы?

б) Ці зьнімаецца судзімасьць з асуджаных, якія выбарчых правоў не пазбаўлены, але адміністрацыйнымі органамі яны высланы за межы БССР?

(Запытаньне Нарсудзьдзі Лагойскага раёну).

**Адказы**: а) Згодна простага сэнсу п. 10 інструкцыі аб дапасаваньні пастановы ЦВК БССР за 10/VII 30 г. аб амністыі, апошняя пашыраецца толькі на асоб, якія паводле Канстытуцыі БССР карысталіся выбарчымі правамі да абвяшчэньня гэтай амністыі. Калі-ж яны былі пазбаўлены выбарчых правоў да часу абвяшчэньня паказанай амністыі, то, ня гледзячы на тое, што яны карысталіся выбарчымі правамі раней да вынясеньня прыгавору, амністыя да такіх асоб дапасоўвацца не павінна, паколькі ў гэтым-жа пункце інструкцыі ясна паказана, што на асоб, ня маючых выбарчых правоў, але падаўшых у адпаведныя органы хадатайніцтвы аб аднаўленьні іх у выбарчых правох, амністыя не пашыраецца да канчатковага вырашэньня пытаньня аб аднаўленьні гэтых асоб у выбарчых правох у выбарчай камісіі.

б) Пытаньне адносна зьняцьця судзімасьці з тых асуджаных, якія да моманту вынясеньня прыгавору ня былі пазбаўлены выбарчых правоў, але якія высланы (пасьля вынясеньня судом прыгавору) у адміністрацыйным парадку за межы БССР, вырашаецца ў адмоўным сенсе, паколькі згодна інструкцыі ЦВК БССР аб выбарах у саветы асобы, якія высланы ў адміністрацыйным парадку, на тэрміны іх высылкі пазбаўляюцца выбарчых правоў.

(Растлумач. НКЮ № 217 н/109 за 21/IX-30 г. Нарсудзьдзі Лагойскага раёну).

IV. **Пытаньне**. Якімі законамі павінен кіравацца суд пры прыёме і разглядзе спраў аб невыкананьні ўмоў па контрактацыі жывёлы ў тым выпадку, калі ў якасьці падставы для іску прадстаўляюцца такія ўмовы, якія, апроч абавязку здаць у належны тэрмін жывёлу, не зьмяшчаюць у сабе ніякіх іншых абавязкаў контрактоўшчыка (адсутнічае, напрыклад, ва ўмове паказаньне на ўплату няустойкі за невыкананьне ўмовы)?

(Запытаньне нарсуду Лёзьненскага раёну).

**Адказ**. Згодна арт. 7 пастановы СНК СССР „пра контрактацыю жывёлы“ (Зб. Зак. Саюзу ССР 1930 г. № 17, арт. 188), контрактацыя жывёлы прызнаецца ўдарнай задачай і таму суду трэба асабліва ўважліва аднесьціся да вырашэньня іскаў, якія грунтуюцца на дагаворах аб контрактацыі жывёлы.

Прымаючы пад увагу, што спэцыяльнага закону, рэгулюючага контрактацыю жывёлы, няма, пры вырашэньні спраў, зьвязаных з контрактацыяй жывёлы, трэба кіравацца правіламі пастановы СНК Саюзу ССР за 7/X-1929 г. „пра контрактацыю прадуктаў сельскае гаспадаркі“ (Зб. Зак. СССР 1929 г. № 65, арт. 610, і 1930 г. № 34 арт. 375), а таксама тымі паказаньнямі па ўжываньні гэтай пастановы, якія былі дадзены Пленумам Вярхоўнага Суду БССР у пастанове яго за 10-е верасьня г. г. (прат. № 89, п. 2).

(Растлумач. НКЮ № 245 н/109 за 8/IX-30 Нарсуду Лёзьненскага раёну).

**ПЫТАНЬНЯ:**

1. Ці мае права Р.В.К. увесьці працоўна-гужавую павіннасьць на час загатоўкі збожжа і гародніны?

2. Хто мае права накладаць штрафы за невыкананьне розных відаў нарыхтовак?

3. Паколькі законна прымусовае ўзыманьне штрафу без саблюдзеньня 7-мі дзённага тэрміну для добраахвотнага ўзноса?

Пракуратура Рэспублікі растлумачвае, што згодна пастановы С.Н.К. за 3/IX-30 г. „пра ўвядзеньне платнае працоўна-гужавой павіннасьці на час загатоўкі збожжа і гародніны“ (З. З. 1830 г. № 35 п. 230), платная мабілізацыя гужавога і аўтамабільнага транспарту (апроч машын, якія абслугоўваюць дарожнае будаўніцтва), а таксама працоўная павіннасьць можа праводзіцца ня толькі для пагрузкі бульбы, але-ж наогул збожжа і гародніны. Гэта павіннасьць можа праводзіцца выключна ў тых выпадках, калі нельга наняць рабочых і дастаць транспарту.

Калі яўна парушаюцца паказаныя ўмовы праўвядзеньня працоўна-гужавой павіннасьціі належыць апратэстоўваць нарады напрацоўна-гужавую павіннасьць.

Спагнаньне ў прымусовым парадку штрафаў раней тэрміну, дадзеннага згодна закону на добраахвотную ўплату, супярэчыць закону і пракуроры павінны апратэстоўваць з прыпыненьнем продажы маёмасьці.

Штрафы за няздачу збожжа па пастановах сялянскіх сходаў і навыкананьне цьвёрдых заданьняў кулацкімі гаспадаркамі накладаецца сельскімі саветамі ў межах да пяціразовага разьмеру кошту ня зданай колькасьці збожжа (паст. Ц.В.К. і С.Н.К. Б.С.С.Р. за 17/VIII-29 г.

Нараджаць у падводы для вывазкі капусты і бульбы з саўгасаў і Спажывецкага Таварыства сялян толькі за тое, што яны ня выканалі свае заданьні па нарыхтоўках, незаконна і асоб, якія гэта робяць, трэба прыцягваць да адказнасьці. Нараджаць у падводы магчыма толькі ў парадку паказанай вышэй пастановы аб працоўна-гужавой-павіннасьці.

Адказны рэдактар **Мар'ясіна**.



Галоўлітбел № 3682. Тыраж 450 экз. Друкарня Менспраўдому.